# К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 13 (275) 5 — 11 красавіка 1997 г. КОШТ 2000 РУБ

ІНФАРМУЕ




## МІНСКАЯ ВЯСНА ШУБЕРТА І БРАМСА

Гэты год для Беларускай дзяржаўнай філармоніі — юбілейны. Напрыканцы 59-ы сезон, распачынаецца шасцідзесяты, юбілейны. Усе мерапрыемствы, што ладзяцца сёлета, прымеркаваны кіраўніцтвам да 60-гадовага юбілею. "Мінская вясна", якая распачалася 4 красавіка, прымеркавана адначасова і да другой важнай падзеі ў музычнай культуры ўсяго свету — да 200-годдзя з дня нараджэння Франца Шуберта і 100-годдзя смерці Іагана Брамса. Сёлетняя "Мінская вясна" праходзіць пад дэвізам "Франц Шуберт і Іаган Брамс — нашыя сучаснікі". У Дзяржаўнай філармоніі з 4 па 20 красавіка ўключна адбудзецца шэраг канцэртаў, праграму якіх складаюць творы Шуберта і Брамса. Знамянальна, што на адкрыцці "Мінскай вясны" — 4 красавіка — Дзяржаўным акадэмічным сімфанічным аркестрам дырыжыраваў Міхаіл Кац з Францыі, які на гэты момант з'яўляецца яго галоўным дырыжорам. 6 красавіка ў Вялікай зале філармоніі выступае непаўторная Марыя Біешу. 11 красавіка мінчане змогуць паслухаць акадэмічны сімфанічны аркестр і камерны хор Акадэміі музыкі. А тыя, хто наведае філармонію 12 красавіка, змогуць ацаніць сумесную творчую працу дырыжора П'ера Анжэла Пелукі з Італіі і Камернага аркестра Беларускай акадэміі музыкі. 17 красавіка мінскую публіку знаёміць са сваім майстэрствам яшчэ адзін госць з замежжа — арганіст з Германіі Іаган Геферт (у праграме — Бах, Моцарт, Гендэль). 19 красавіка можна будзе наведаць фартэпіянны канцэрт Ігара Алоўнікава. У выкананні зоркі айчыннага фартэпіяннага майстэрства прагучаць творы Шуберта і Брамса. Нарэшце, 20 красавіка адбудзецца заключны канцэрт "Мінскай вясны-97", на якім прадэманструе сваё майстэрства сімфанічны аркестр Беларускай акадэміі музыкі. Прагучыць апошняя сімфонія Франца Шуберта.

**Алена РЫГОРАВА**

*Красавік для Беларусі — не проста чарговы веснавы месяц. Успыхнула адзінаццаць вёснаў таму зорка Палын і працягвае абпальваць краіну...*

*Красавік сёлета для праваслаўных вернікаў — святы месяц. Напрыканцы яго — Уваскрэсенне Хрыстова...*

*Красавік — месяц спасціжэння Космасу...*

*Красавік-97 — месяц яркіх культурных падзей на Бацькаўшчыне...*

*Красавік праз "Культуру" раскажа пра ўсё гэта.*

*Наш інфармацыйны нумар ідзе паперадзе падзей!*

## БАЛЮЧЫ НАПАМІНАК — ЧАРНОБЫЛЬ

Так ужо сталася, што ў апошнія гады красавік месяц увайшоў у нашу свядомасць як сімвал болю і жалобы. Кожны год напрыканцы красавіка раніць балючы напамінак — Чарнобыль. І адразу ўспамінаецца той чорны вецер, што праляцеў над зямлёй пад белымі крыламі, пакінуўшы пасля сябе толькі гора.

Перасяленцаў з Магілёўскай і Гомельскай абласцей прынята называць экалагічнымі бежанцамі. Экалагічныя бежанцы знайшлі прытулак і разуменне ва ўсіх чыстых ад радыенуклідаў рэгіёнах Беларусі. У свой час Вілейскі інтэрнат для дзяцей-інвалідаў таксама прыняў хлопчыкаў і дзяўчынак з Магілёўскай і Гомельскай абласцей, прыняў і стаў для іх родным домам. Ва ўсялякім разе, людзі, якія працуюць там, прыкладалі ўсе свае намаганні, каб было менавіта так, і не без поспеху.

Як стала вядома, у Міністэрстве культуры распрацавана праграма шэфскай дапамогі Вілейскаму інтэрнату. У шэрагу мерапрыемстваў гэтай праграмы: азнаямленне з выставамі сталічных музеяў. Толькі ў дадзеным выпадку не наведнікі прыязджаюць у музеі сталіцы, а наадварот, музеі вывозяць падрыхтаваныя выставы да наведнікаў. У красавіку Музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны пазнаёміць выхаванцаў Вілейскага інтэрната з фотавыставай "Дзяцінства, абпаленае вайной".

Музей Янкі Купалы вывозіць у Вілейку дзве выставы — яны знаёмяць з творчасцю Максіма Гарэцкага і Янкі Купалы. Увогуле шэфская дапамога Вілейскаму інтэрнату з боку Міністэрства культуры будзе аказвацца на працягу ўсяго гэтага года і плануецца на наступны.

**А.Р.**

*Афіцыйна*

# ХТО ЗАПЛАЦІЦЬ ЗА МАРЫ?

***Пакуль яшчэ далёка не ўсё нам, журналістам "К", вядома пра тое, што закладваецца аргкамітэтам II Міжнароднага пленэру па выяўленчым мастацтве імя Марка Шагала ў праграму яго святочных і будзённых дзён. Хоць з кампетэнтных афіцыйных крыніц даведаліся мы пра... Урэшце, пакуль што многае — пад пытаннем з прычыны дэфіцыту фінансаў. І ўсё ж хочацца верыць: у добрым сэнсе славалюбныя мары арганізатараў пераўтворацца ў рэальнасць у чэрвені — ліпені 1997 года тут, на Беларусі. Прынамсі ў Віцебску, дзе 110 гадоў таму нарадзіўся славуты Шагал.***

***"Культура" будзе пастаянна друкаваць матэрыялы пра ход падрыхтоўкі да пленэру. Сёння першымі спадзяваннямі і сумненнямі з нашым карэспандэнтам дзеліцца мастацкі кіраўнік пленэру, вядучы спецыяліст аддзела музеяў і выстаў Міністэрства культуры Беларусі Ірына Мятліцкая.***



*Літаграфія Марка Шагала.*

**— Ірына, хто акрамя Міністэрства культуры — у шэрагу арганізатараў сёлетняга пленэру?**

— Віцебскі гарвыканкам пры падтрымцы Міністэрстваў культуры Расіі і Францыі, пасольства Францыі ў Рэспубліцы Беларусь і іншыя міжнародныя арганізацыі.

**— Пленэр задумваўся як працяг першага Міжнароднага "шагалаўскага"?**

— Не толькі як працяг. Хачу спадзявацца, ён атрымае якасна новае развіццё. Калі вы памятаеце, той пленэр стаў важнай падзеяй у культурным жыцці не толькі нашай краіны, але і Еўропы ў цэлым. Ён аб'яднаў у сабе жывапіс і графіку, мастацкую фатаграфію і музыку, тэатральныя прадстаўленні і выставачную дзейнасць, такім чынам, па сутнасці, ён арганічна сінтэзаваў самыя розныя віды і жанры мастацтваў.

**— Натуральна, "сінтэзатарамі" сталі мастакі?**

— Так. Каля сарака мастакоў з Беларусі, Францыі, Расіі, ЗША, Італіі, Ізраіля, Грэцыі, Турцыі прынялі ўдзел у пленэры, які закончыўся грандыёзнай экспазіцыяй у Віцебскай ратушы.

**— Так, я памятаю, як інтэнсіўна працавала міжнароднае журы, вызначаючы ўзнагароды ўдзельнікам гэтай выставы-конкурсу. Памятаю і выставу жывапісу Юдаля Пэна, настаўніка Шагала, і іншыя экспазіцыі...**

— Думаю, што такія пленэры павінны стаць месцам творчага навучання мастакоў, мастацтвазнаўцаў, усіх дзеячаў культуры і нават спонсараў — прадстаўнікоў розных краін і рэгіёнаў, у працэсе якога максімальна рэалізоўваліся б праекты і вызначаліся перспектывы ўзаемнага супрацоўніцтва.

**— Такім чынам, другі Міжнародны пленэр імя Марка Шагала павінен як бы працягнуць напрацаваныя традыцыі...**

— ...І адначасова стаць месцам сур'ёзнага аналізу і асэнсавання праблем, якія існуюць сёння ў мастацкім свеце.

**— Дарэчы, слова "пленэр" нарадзілася ў Францыі...**

— І перакладаецца літаральна "праца на паветры". Але там яго амаль ужо забылі. Вольны вецер парыжскіх ускраін выплеснуў імпрэсіяністаў, але ўжо не асвяжае прахожых. Прайшло стагоддзе. Іншы час на двары. І я, калі пішу запрашальныя лісты ў Францыю, не выкарыстоўваю гэтае слова.

**— Баіцеся быць незразумелай?**

— Менавіта. Зараз часцей выкарыстоўваю слова "сімпозіум", што азначае сабранне людзей па вывучэнні якога-небудзь пытання міжнароднага характару...



*Твор будучага ўдзельніка пленэру Нікаля дэ Крэсі з Ліёна.*

**— А што Вас бянтэжыць у структуры правядзення такіх пленэраў? Я ведаю, Вы былі ўдзельніцай пяці ці шасці рознага кшталту "прац на паветры"?**

— Існуе бездань паміж выдаткамі арганізатараў і вынікамі правядзення такіх акцый. Нават на лепшым, у маім разуменні, першым Міжнародным "шагалаўскім" пленэры не было зроблена амаль нічога, каб неяк асэнсаваць і замацаваць яго вынікі, у тым ліку хаця б прааналізаваць гэты багацейшы матэрыял, які сам "ішоў у рукі"...

**— Што Вы маеце на ўвазе?**

— Ну хоць бы ўспомніць той цудоўны летні вечар пятага ліпеня 1994 года ў будынку Віцебскай ратушы, калі адкрывалі выставу ўдзельнікаў пленэру. Здавалася, ажылі карціны Шагала: былі канатныя танцоры, аслік і нават рознакаляровыя куры — усё гэта злівалася ў асляпляльным і казачным феерверку. У вокнах дамоў стаялі музыканты, спявалі скрыпкі і як заключны акорд — сноп пражэктараў асвяціў парачку закаханых на даху ратушы, і яны лунаді на фоне начнога неба... Словам, свята хвалюючае, іскрамётнае — атрымалася на славу.

**— Пасля свята прынята падводзіць вынікі?**

— Зразумела. Свята дзеля свята таксама мае права на існаванне, але... усё ж горкі асадак у мяне застаўся. Засталіся нявыкарыстанымі ў маім архіве дзесяткі старонак праектаў і прапаноў па выніках гэтага пленэру...

**— Чаму так сталася?**

— Усе мае думкі як мастацкага кіраўніка пленэру былі заняты не толькі творчымі пытаннямі, а, у асноўным, закупкамі ў Санкт-Пецярбургу мастацкіх матэрыялаў для ўдзельнікаў пленэру, перавозкай іх праз мытню, рознымі рахункамі, каштарысамі і такога кшталту іншымі справамі. Не дай Бог, каб такое паўтарылася і ў гэтым годзе...

**— Дык што ж павінна адбыцца сёлета?**

— Зараз пакуль дэталёва адказаць цяжка, хоць мары захопліваюць мяне, марыць, канешне, добра. Але вось пытанне: хто аплоціць тую ці іншую мару? Мы шмат умеем, умеем працаваць, калі трэба, але марыць так, каб гэтыя мары ператвараліся ў рэальнасць, — складана.

**— Наколькі мне вядома, канкрэтная праца па арганізацыі пленэру ўжо распачата?**

— Запрошаны вядомыя крытыкі і мастацтвазнаўцы з Расіі, Францыі, Польшчы. У склад журы нават далі згоду ўвайсці Жан Ів Банье, глава дэпартамента культуры правінцыі Эльзас, эксперт Савета Еўропы, і Леанід Бажанаў — начальнік упраўлення выяўленчых мастацтваў Міністэрства культуры Расіі. Створана беларуская група мастакоў, накіраваны запрашэнні ў іншыя краіны далёкага і блізкага замежжа.

**— Хто прыедзе з Францыі?**

— Па рэкамендацыі Французскай Асацыяцыі садзеяння артыстычнай дзейнасці Міністэрства замежных спраў Францыі да нас прыедуць два мастакі: жывапісец і фотамастак. Яны будуць тут ажыццяўляць свой праект "Падарожжа ў Беларусь". Потым гэты праект яны пакажуць у сябе на радзіме. Мы таксама падрыхтуем свае праекты, прэзентацыя якіх пройдзе ў канцы пленэру.

**— З кім Вы збіраецеся непасрэдна працаваць?**

— Пакуль дамовіліся з мінскай галерэяй "Жыльбел". Першы такі вопыт з недзяржаўнай галерэяй можа прынесці свой плён. Мы таксама будзем супрацоўнічаць з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі, ствараць адпаведны каталог, дакладней, своеасаблівы зборнік-альманах, які будзе змяшчаць не толькі вынікі працы ўдзельнікаў пленэру, але і матэрыялы, звязаныя з жыццём Шагала і Віцебскай мастацкай школы...

# "ХАРОШКІ" ЦЯПЕР БОЛЬШ УПЭЎНЕНЫЯ, ШТО ЯНЫ ХАРОШЫЯ

***20 красавіка — чарговая дата адкрыцця памяшкання школы-студыі "Харошкі". Чарговая — таму што было ўжо некалькі. Наогул, Валянціна Іванаўна ГАЯВАЯ, мастацкі кіраўнік калектыву, пачала сваю "адысею" восем гадоў таму:***

— Менавіта ў той час адчулася, што школа-студыя, якая пачала існаваць амаль аднычасова з асноўным саставам, патрабуе дадатковых плошчаў. Напачатку ў мяне была ідэя стварыць нацыянальны фальклорны цэнтр — з канцэртнай залай, рэпетыцыйнымі памяшканнямі, выставачнымі заламі, рэстаранам з нацыянальнай кухняй і гэтак далей. Быў нават зроблены праект перабудовы аднаго з адслужыўшых сваё прамысловых будынкаў. Але змяніліся часы, змяніліся адносіны да нацыянальных каштоўнасцяў. Хаця я ўсёроўна ўпэўнена, што твар нацыі павінен быць яркі.

Зараз мы рыхтуем да адкрыцця тое памяшканне, якое нам удалося — з трох прапанаваных — прымеркаваць да патрэбаў школы-студыі. Гэта адзін этаж адміністратыўнага будынку па вул.Захарава, 50. З вялікімі цяжкасцямі, відавочна ж з вялікай дапамогай Міністэрства культуры, удалося адбудаваць рэпетыцыйную залу, выкраіць каморку для будучай гуказапісваючай студыі , майстэрняў. Мы ж ня проста харэаграфічны ансамбль. Часам забываюць, што мы таксама ансамбль музычны. Нашы музыкі граюць на унікальных інструментах. Нават гармонік у нашых праграмах гучыць адпаведна — так, як ён гучыць на гомельшчыне ці магілёўшчыне, а не як, напрыклад, у Разані. Мы адрадзілі ліру, "ажыўляем" дыятанічныя цымбалы. Але чаго на самой справе няма ні ў якім іншым калектыве — мы адраджаем духавыя інструменты. Гэта не толькі вядомая беларуская дуда, а напрыклад, продкі сучасных духавых — звычайныя трасцінкі, з камышу, нават з саломы. Дарэчы, некалі існаваў цэлы клас інструментаў пад назвай "кмены" — ад кміну, з якога яны рабіліся. Усе гэтыя нязвыклыя "прылады" робіць наш унікальны майстар Кульпін. А навучыць граць на ніх — таксама справа не з простых.

Але, вядома ж, галоўная падрыхтоўка ў школе-студыі адбываецца па харэаграфіі. Мы вырашылі, што студыя і надалей застанецца бясплатнай. Каб наведваць яе змаглі дзеці незалежна ад дастатку, а толькі — ад таленту. Зараз у нас каля 80 студыйцаў — мяркуем, што надалей будзем набіраць штогод па 30-40. Вядома ж, усіх выпускнікоў прыняць у "дарослыя" "Харошкі" немагчыма — але падрыхтоўка, якую дзеці атрымліваюць у нас, дазваляе ім па заканчэнні студыі працаваць у самых прафесійных ансамблях, гэта ўжо даказана. Зараз шмат з нашых былых студыйцаў працуюць у іншых калектывах, напрыклад, у Дзяржаўным ансамблі, у "Бліскавіцы" БВА. Разлічваем, што новае памяшканне студыі будзе выручаць і асноўны састаў. Напрыклад, у нас шмат касцюмаў — на кожную праграму рабіліся свае. Праграмы гэтыя існуюць, хоць і выконваюцца не пастаянна. Мяркуем, што частку касцюмаў цяпер здолеем храніць на новых плошчах. Часам — і ўсё часцей — тыя ж касцюмы робім ці перарабляем для дзяцей самі. Для гэтай цэлі я абсталявала тут, у філармоніі, былы туалет — іншых памяшканяў не знайшлося. А там разлічваем зрабіць сапраўдную майстэрню. Але галоўнае — зала. Тут у нас жудасныя умовы для працы. Зала не пустуе не хвіліны, заканчваюць малодшыя, пачынаюць дарослыя — цэлы дзень. Зала без адзінага вакна, паветра пад вечар і паветрам не назавеш. Пол разбіты. "Фанары" — шкляныя ўстаўкі ў столі — цякуць пасля кожнага дажджу. Зала ў новым памяшканні, вядома ж, будзе цалкам належыць школе-студыі, хацелася б, каб хоць дзеці працавалі ў нармальных умовах. Робіцца добры букавы пол і іншае, ўсё што неабходна.




Зараз рэпертуар школы-студыі складаецца галоўным чынам з нашых, асноўнага складу, былых праграм. Ёсць праграмы, якія ў дзяцей атрымліваюцца нават лепш, чым у дарослых, напрыклад, "Зязюля" — гэтую асноўны сатаў ўжо не будзе выконваць. Пачынаюць ствараць нумары і цэлыя праграмы ўжо мае танцоўшчыкі — гэта тое, што называецца "пераемнасцю пакаленняў". Маю надзею, памяшканне школы-студыі "Харошкі" дабавіць упэўненасці існаванню ансамбля, канцэрты якога, дзякуй Богу, праходзяць пры поўных залах і дома, у Беларусі, і за мяжой.

**Ігар КЛОКАЎ**

*На здымку: "Харошкі" ў час адных з апошніх гастроляў — у нямецкім горадзе Трыры, на каталіцкім святце, якое праводзіцца там раз у 50 гадоў, разам з нямецкім кардыналам.*

# АДКАЗАЦЬ НА ПЫТАННЕ — "ЧАМУ?"

***Вайна... Наўрад ці знойдзецца чалавек, у якога гэта слова не выклікала ніякіх пачуццяў. Нехта перажыў яе сам ці страціў кагосьці з родных ці блізкіх. Розныя людзі пры гэтым слове ўяўляюць розныя войны: другая сусветная, В'етнам, Афганістан, Персідскі заліў, Чачня... З гэтым словам асацыіруецца кроў, смерць, слёзы. Апошнім часам ні адна перадача навін не абыходзіцца без звестак пра вайну — вялікага або малога маштабу, захопніцкую або грамадзянскую. Хоць так не павінна быць, але гэта паўтараецца з усё ўзрастаючай частатой. Чаму?***

**7 — 11 красавіка** Пасольства Рэспублікі Польшча праводзіць у сталічным кінатэатры "Перамога" паказ польскіх фільмаў аб вайне. 7 красавіка пройдзе фільм "Гераічная пастараль" (рэжысёр — Генрых Бельскі), 8 красавіка —"Гэтай вясной не было сонца" (рэжысёр — Юліуш Яніцкі), 9 красавіка — "Мая вайна — маё каханне" (рэжысёр — Януш Насфэтэр), 10 красавіка — "Алімпіяда — 40" (Анджэй Каткоўскі), 11 красавіка — "Маёр Губаль" (рэжысёр — Богдан Парэмба). Пачатак усіх сеансаў у 19.00.

Аўтары фільмаў таксама спрабуюць адказаць на пытанне — "чаму"?

**М.Б.**

№ 13 5 — 11 красавіка 1997 г.



# КАЛЯНДАР ТРАДЫЦЫЙНЫХ ФЕСТЫВАЛЯЎ І СВЯТАЎ УСТАНОЎ КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ

***МАЙ***

**Міжнародны фестываль народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік"**
*30 мая — 1 чэрвеня, г.Паставы, Віцебская вобласць*
Прымаюць удзел мастацкія калектывы і асобныя выканаўцы на народных інструментах, гармоніку, прыпевачнікі
Міністэрства культуры: (017) 223-73-63
Упраўленне культуры Віцебскага аблвыканкома: (8-021-2) 37-62-15
Аддзел культуры Пастаўскага райвыканкома: (8-021-55) 2-19-45

**Міжнародны фестываль дзіцячай творчасці "Голас дзяцінства"**
*30 мая — 1 чэрвеня, г.Мінск, Цэнтральны дзіцячы парк імя М.Горкага*
Прымаюць удзел калектывы з Беларусі, Балгарыі, краін Балтыі, Германіі, Польшчы, Чэхіі
Упраўленне культуры Мінгарвыканкома: (8-017) 221-74-97

**Міжнацыянальны фестываль сямейнай творчасці "Радавод"**
*Май — чэрвень, г.Гомель*
Прымаюць удзел творчыя сем'і Гомельскай, Бранскай, Чарнігаўскай абласцей
Упраўленне культуры Гомельскага аблвыканкома: (8-023-2) 53-51-20
Гомельскі абласны цэнтр народнай творчасці: (8-023-2) 53-30-51

**V абласны фестываль хароў ветэранаў вайны і працы**
*г.Брэст*
Прымаюць удзел хары, аматарскія аб'яднанні, клубы ветэранаў
Брэсцкі абласны грамадска-культурны цэнтр: (8-016-2) 26-61-60, 26-41-53, 26-36-86

**Абласное свята народнага танца**
*г.Віцебск*
Прымаюць удзел танцавальныя калектывы ўстаноў культуры
Упраўленне культуры Віцебскага аблвыканкома: (8-021-2) 37-62-15
Віцебскі абласны цэнтр народнай творчасці: (8-021-2) 36-43-64

**XIII абласны злёт юных талентаў Міншчыны**
*г.Мінск*
Прымаюць удзел юныя паэты вобласці
Мінская абласная бібліятэка імя А.Пушкіна: (8-017)
Аддзел культуры Лагойскага райвыканкома: (8-274) 236-84-84

**Абласное свята духавой музыкі "Мінскі вальс"**
*г.Валожын, Мінская вобласць*
Прымаюць удзел самадзейныя духавыя аркестры
Аддзел культуры Валожынскага райвыканкома: (8-272) 5-55-45
Мінскі абласны цэнтр народнай творчасці: (8-017) 239-67-02

**Фестываль дзіцячых эстрадных калектываў "Жаўрукі Багрыма"**
*Май—чэрвень, в.Крошын, Баранавіцкі раён, Брэсцкая вобласць*
Прымаюць удзел дзіцячыя эстрадныя калектывы, выканаўцы эстраднай песні
Аддзел культуры Баранавіцкага гарвыканкома: (8-016-34) 2-49-62

**Гарадскі фестываль нацыянальных культур**
*г.Гомель*
Прымаюць удзел творчыя калектывы нацыянальных меншасцяў
Аддзел культуры Гомельскага гарвыканкома: (8-023-2) 53-15-80

**Гарадскі фестываль юных талентаў "Правінцыя—97"**
*г.Светлагорск, Гомельская вобласць*
Прымаюць удзел дзіцячыя і юнацкія калектывы, індывідуальныя выканаўцы
Аддзел культуры Светлагорскага гарвыканкома: (8-023-42) 2-22-80

**Гарадское свята "Магілёву — 730 год"**
*23—25 мая, г.Магілёў*
Прымаюць удзел самадзейныя калектывы ўстаноў культуры
Упраўленне культуры Магілёўскага гарвыканкома: (8-022-2) 25-29-80

**Свята сямейнай творчасці**
*15 мая, г.п.Ганцавічы, Брэсцкая вобласць*
Прымаюць удзел сямейныя аматарскія калектывы
Аддзел культуры Ганцавіцкага райвыканкома: (8-016-46) 2-15-45, 2-21-48

**Раённае свята мастацтваў "Браслаўскія зарніцы — 97"**
*г.Браслаў, Віцебская вобласць*
Прымаюць удзел калектывы мастацкай самадзейнасці
Аддзел культуры Браслаўскага райвыканкома: (8-021-53) 2-26-51

**Раённае свята, прысвечанае Кірылу Тураўскаму**
*11 май, г.п.Тураў, Гомельская вобласць*
Прымаюць удзел рэлігіёзныя дзеячы, творчыя калектывы вобласці, раёна
Аддзел культуры Жыткавіцкага райвыканкома: (8-023-53) 2-12-80

**Раённы фестываль дзіцячай творчасці "Цудоўная краіна Несцерка"**
*Гомельскі раённы Дом культуры*
Прымаюць удзел дзіцячыя калектывы і індывідуальныя выканаўцы
Аддзел культуры Гомельскага райвыканкома: (8-023-222) 3-22-80

**Раённае свята танца "Рагачоўскі карагод"**
*Рагачоўскі раён, Гомельская вобласць*
Прымаюць удзел танцавальныя калектывы
Аддзел культуры Рагачоўскага райвыканкома: (8-023-39) 2-12-80

**Раённае этнаграфічнае свята для дзяцей "Кола года"**
*г.п.Быхаў, Магілёўская вобласць*
Прымаюць удзел дзіцячыя калектывы, студыі, аб'яднанні
Быхаўскі раённы Дом народнай творчасці: (8-022-31) 2-21-65

**Раённы фестываль народнай творчасці "Веснавыя колеры"**
*в.Вязье, Асіповіцкі раён, Магілёўская вобласць*
Прымаюць удзел калектывы мастацкай самадзейнасці, асобныя выканаўцы
Аддзел культуры Асіповіцкага райвыканкома: (8-022-35) 2-25-45

**Раённае свята "Грай, гармонік"**
*г.п.Касцюковічы, Магілёўская вобласць*
Прымаюць удзел калектывы мастацкай самадзейнасці, асобныя выканаўцы
Аддзел культуры Касцюковіцкага райвыканкома: (8-022-45) 2-15-58

**Раённы фестываль юных музыкантаў "Сымон-музыка"**
*г.Стоўбцы, Мінская вобласць*
Прымаюць удзел юныя музыканты-выканаўцы
Аддзел культуры Стаўбцоўскага райвыканкома: (8-217) 5-55-45

# НЯХАЙ ЖЫВЕ МОДА НА НАРОДНЫ СТРОЙ І НАРОДНУЮ СТРАВУ!

***(Многа незвычайнага вы можаце пабачыць і пакаштаваць самі)***

За акном ішоў снег, пляла белыя карункі завіруха, а ва ўтульных пакоях Лепельскага Дома рамёстваў дзяўчаткі і хлопчыкі стваралі Прыгажосць. Тут, пад адным дахам працуюць гурткі традыцыйных беларускіх мастацтваў: ткацтва, ганчарства, саломапляцення, выцінанкі... Незвычайная цеплыня, якая прамянілася ад народных вырабаў, што проста на вачах выходзілі з пад спрытных рук маладых умельцаў, ахутвала сэрцы чыноўных мужоў першароднай, як кажуць "ад самой зямлі" — пяшчотай.

А мужы сабраліся ў 20-тысячным раённым цэнтры не толькі дзеля таго, каб адчуць гэтую пяшчоту, а дзеля таго, каб падумаць, як захаваць яе для нашчадкаў.

27 — 28 красавіка ў Лепелі праходзіла выязное пасяджэнне калегіі Міністэрства культуры па праблемах падтрымкі і захавання традыцыйнай культуры Беларусі, на якое былі запрошаны кіраўнікі ўпраўленняў культуры аблвыканкамаў і райвыканкамаў, дырэктары метадычных цэнтраў, прадстаўнікі творчых саюзаў. Лейтматывам усіх мерапрыемстваў былі трывога за сучасны стан традыцыйнай культуры і рашучасць знайсці шляхі, каб падтрымаць нашую народную культуру.

Вельмі паказальным у гэтым плане была тэматычная праграма па абрадавых матывах Лепельшчыны "Каса — дзявочая краса". Цікавы, новы падыход выявілі пастаноўшчыкі ў стварэнні гэтай праграмы. У ёй яны змаглі выдатна спалучыць дзве, здавалася б, розныя формы мастацтваў: моды (а ў прыватнасці — паказ моды) і народнага абраду. Думаецца, што гэтую праграму можна было ставіць на сцэне любога Дома культуры.

Сюжэтна яна выглядае прыкладна гэткім чынам:

У недалёкай беларускай мінуўшчыне незамужнія дзяўчаты хадзілі з даўгімі косамі і не хавалі іх пад хусткамі ці каптурамі.

1. На сцэне — даўгакосая дзяўчынка і малады статны хлопец, ён гайдае яе на арэлях. А перад імі на подыум выходзяць дзяўчаткі, апранутыя ў традыцыйныя народныя строі, якія насілі незамужнія беларусачкі.

2. Пасля дзяўчыну выдаюць замуж. Адбываецца абрад "выкупу нявесты", старэнькія бабулькі спяваюць старажытныя абрадавыя песні. Затым на подыуме — шлюбныя строі Беларусі.

3. Дзяўчына — замужам, яе косы сяброўкі закручваюць і хаваюць пад каптуром — болей ніколі яна нікому, акрамя свайго мужа, іх не пакажа.

На подыуме — дэманстрацыя народных жаночых галаўных убораў.

4. На сцэне беларуская мадонна — жанчына з дзіцем. На подыуме — паказ строяў, якія насілі замужнія беларускі.

Усё, безумоўна, суправаджаецца фальклорнай альбо фолкрокавай музыкай.

Здаецца, што паставіць гэткую дзею не вельмі складана, бо вядома, што ў старых людзей захоўваецца адзенне, якое яны насілі ў маладосці, альбо ў розных дамах культуры ці проста ў сябе ў хатах дагэтуль майстрыхі робяць народныя ўборы. Чаму ж не спалучыць сучаснасць з традыцыяй?

Як заўважылі на пасяджэнні выязной калегіі Міністэрства культуры, дзяўчына, якая на подыуме з гонарам дэманстравала народныя строі, ніколі не зможа не тое што абразіць, але і нейкім чынам прынізіць набыткі традыцыі свайго краю. Тое ж самае можна сказаць пра публіку, якой было вельмі шмат у той зале і якая ўзнагародзіла народных "модніц" доўгімі шчырымі авацыямі.

Незвычайныя спалучэнні розных відаў мастацтва дзеля прапаганды, іншымі словамі — вынаходжанне новых форм прапаганды традыцыйнай культуры — гэта адзін і даволі перспектыўны шлях падтрымкі гэтай культуры. Але на калегіі быў абмеркаваны і часткова прадэманстраваны іншы, даўно праверапы, спосаб падтрымкі традыцыйнага мастацтва — лепшым майстрам, што ўдзельнічалі ў выставе народных вырабаў, былі ўручаны грашовыя прэміі.

А каб смак традыцыйнай культуры надоўга захаваўся ў памяці ўсіх удзельнікаў калегіі, вячэру аднаго дня склалі традыцыйныя беларускія стравы.

Праўда, вы, нашыя шаноўныя чытачы, можаце самі адчуць гэта, пакаштаваўшы тыя ж стравы. Рэцэпты з буклета, выдадзенага Беларускім інстытутам праблем культуры да гэтага мерапрыемства, мы змяшчаем ніжэй.

**С.М.**

*в.Чаросава*
*Знарко Ніна Вікенцьеўна, 1932 г.н.*

***КЛЁЦКІ З БУЛЬБЫ З "ДУШАМІ"***

Чысцілі вялікую бульбу нанач. Раніцай дралі на тарцы. Адціскалі крэпка. Як адстоіцца, ваду злівалі, а ілоўку (крухмал) дабаўлялі ў дранку адціснутую, салілі, дадавалі трошкі мукі, калі ёсць, замешвалі. Парэзаць сала кавалкамі, дабавіць туды кмен, соль, цыбулю.

Начыніць гатовае дранне і зрабіць клёцкі, варыць у вадзе.

***КАМЫ З ГАРОХАМ***

Бульбу і гарох, які нанач намачвалі, адварывалі разам. Таўклі і запраўлялі алеем або салам. Рабілі камы.

*в. В.Поўсвіж*
*Ганчар Ганна Сямёнаўна, 1914 г. н.*

***ПІРАГІ***

Бульбу дралі, адціскалі, салілі. Потым садзілі гэта дранне на капусным лісце ў печ. Елі з маканнем (малако адтаплівалі, расціралі і лілі крышку салодкага).

***КУЛЕШ***

Закалачвалі муку, потым у кіпяток лілі і запраўлялі, хто шкваркамі, хто алеем. Было вельмі смачна!

*в.Грыгаравічы*
*Каваленка Соф'я Рыгораўна, 1930 г.н.*

***МАКАНКА***

Разбіць два яйкі, усыпаць крухмалу, лыжку мукі, размяшаць і ўліць у кіпячае малко. Зжарыць каўбасу, сальца. Змяшаць разам. Напячы бліноў драных або пшонных і макаць.

***САЛАДУХА***

Узяць ржаную муку, раскаласціць на халоднай вадзіцы ў чыгунку. Пакуль печ топіцца, у саладуху кладзем мёд і памешваем на загнеце, усе гэта грэецца. Калі печ вытапліваецца, жар выгарнуць за бок, накрыць скавародкай чыгун і закласці комін, хай уварваецца, утушваецца. Праз 2 — 2,5 гадзіны дастаць з печкі, каб ахаладзілася на зямельцы. Выліць у хлебніцу (бочачку), накрыць, каб кісла 2 дні. Потым саладуху пасаладзіць і есці з гарачай варанай бульбай.

*в.Кугоні*
*Скамарошчанка Лідзія Уладзіміраўна, 1928 г.н.*

***КЛЁЦКІ (МАЛЫЯ)***

Такія клёцкі гатавалі на Дзяды. Чысцілі бульбу, потым дралі яе на тарку, адціскалі, дабаўлялі соль. Ставілі ў гаршку ваду з мясам, каб варылася. Калі мяса зварыцца, качалі і кідалі туды маленькія клёцкі. Калі зварацца, то елі з мясам і юшкай.



*в.Матырына*
*Дварко Ядвіга Феліксаўна, 1922 г.н.*

***ТАЎЧОНІКІ***

Зварыць бульбу. Патаўчы. Дабавіць трохі мукі. Зрабіць галушкі. Спячы ў печы. Потым таўклі мак, крышылі цыбулю, салілі, усё перамешвалі. У гэта макалі галушкі і выносілі на холад, каб застылі, потым елі.

***АЎСЯНЫ КІСЕЛЬ***

Аўсяную муку нанач залівалі вадою, ставілі ў цёплае месца, каб укісла. Раніцой гэта працэжвалі, салілі і кіпяцілі на малым агні, памешваючы. Як загусцее, выліць у міску, дабавіць смажанага сала з цыбуляю і есці цёплым.

***БЛІНЫ ЛІПАВЫЯ***

Лісце ліпы сушаць, таўкуць. Дадаюць трохі мукі, солі. Пякуць бліны, ядуць гарачыя.

*в.Ляхавічы*
*Качан Паліна Раманаўна, 1927 г.н.*

***МАКАНКА***

Адварыць грудзінку, асобна разбіць яйка ў малако, насыпаць мукі, перамяшаць у роўную масу і ўсё выліць у кіпячы булён, дадаць соль, перац, дробна парэзаць цыбулю і даць пакіпець. У гэту маканку макаць бліны з бульбы.

*в.Жэжліна*
*Жаркоўская Галіна Аляксандраўна, 1931 г.н.*

***ВЕРАШЧАКА***

Нажарыць скварак. Змяшаць з кіпячонай вадой, падкалаціць мукой з сырым яйкам у кацялку, каб закіпела, і макаць мучныя бліны.

*в.Залучына*
*Цітаева Вольга Сцяпанаўна*

***ТАЎЧОНІКІ***

Бульбу ачысціць, пасаліць, зварыць. Звараную бульбу добра патаўчы, можна дабавіць мукі. Потым на капусных лістах пяклі пірагі. Гэтыя пірагі макалі ў смятану абф здорам мазалі.

*в.Навасёлкі*
*Хаткевіч Марыя Ягораўна, 1935 г.н.*

***ПРАЖОНКА***

Робрышкі свіныя, кусочкі каўбасы і сала, цыбуля, розныя прыправы і трохі вады. Усё гэта змясціць у чыгунок, паставіць у печ на полымя і пражыць, памешваючы. Калі гэта будзе гатова, падкалаціць мукой. У пражонку макалі бліны.



На чарговай выставе ў Віцебскім навукова-метадычным цэнтры народнай творчасці прадстаўлены маляваныя дываны Марыі Ларынай, вырабы з лазы Ніны Рабунскай, вышыўка Таццяны Навічковай і разьба па дрэво Анатоля Быкоўскага.

*На здымку: Марыя Ларына і яе творы.*

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

# КАБ НЕ ЗАМУЦІЛАСЯ...

## Парады вольнага крытыка

*Мяркую, нам проста пашчасціла. Чаму — нам? Па-першае, менавіта нашай газеце "К" вядомы крытык Таццяна Ратабыльская не адмовілася даць для публікацыі свае, агучаныя на з'ездзе СТД, думкі.*

*Лішне казаць пра значэнне з'ездаў у гісторыі любога творчага саюза, асабліва калі спрэчнае пытанне — кандыдатура старшыні Саюза. Гісторыі вядомы прыклады, калі да ўлады прарываліся "моські" ад мастацтва і як яны, не падавіўшыся, з'ядаюць "сланоў".*

*Дык вось, IV з'езд СТД адбыўся. Прычым, з казачным фіналам: 100 працэнтаў дэлегатаў тайным галасаваннем выбралі новага "старога" старшыню СТД Беларусі драматурга Аляксея Дударава. З боку рэдакцыі застаецца толькі пажадаць СТД "царскай казны", бо менавіта грошы ў тэатры сёння іграюць першую ролю.*

*Па-другое, менавіта ўладальнікі "Культуры" змогуць прачытаць канструктыўнае, з канкрэтнымі прапановамі выступленне Таццяны Ратабыльскай. Бо, шчыра кажучы, за дзень працы з'езда госці і дэлегаты стаміліся ад занадта прыватных настальгічных прамоў і кулуарных "дакладаў". І, відаць, ёсць у іх свая праўда. Таму мы прапануем не толькі крытыкам, але і драматургам, сцэнографам, рэжысёрам, акцёрам — усім, хто стварае Тэатр, — прыняць удзел у распачатай сёння гаворцы.*

**Ж.В.**





У Саюза тэатральных дзеячаў няма грошай, СТД на картатэцы — лейтматыў існавання арганізацыі ў апошнія гады. А ці патрэбны Саюз і што ён можа зрабіць — узнікае пытанне ў многіх. Упэўнена, што СТД можа стаць годным прадстаўніком тэатральнай грамадскасці і не маючы вялікіх сродкаў.

Сёння інтэлігенцыя — безабаронная перад ціскам дзяржаўнай улады. Асабліва, калі чалавек застаецца сам-насам з уласнымі праблемамі. Ён мае патрэбу ў маральнай, творчай падтрымцы з боку паплечнікаў па прафесіі. Мне здаецца, найвышэйшай мэтай існавання творчага саюза павінна быць абарона правоў чалавека, правоў мастака любой прафесіі: акцёра, рэжысёра, сцэнографа, крытыка. Наспеў час Саюзу ўзяць на сябе пэўныя праваахоўныя функцыі, каб дапамагчы кожнаму свайму сябру, калі спатрэбіцца. Прыкладам: мы жывем пад каўпаком розных праверак, пераатэстацый, перарэгістрацый і іншых "пера". Калектыў ці асобны мастак павінен мець права падаць апеляцыю ў творчы саюз і праз яго патрабаваць паралельнай працы незалежнай камісіі, створанай СТД.

Нядаўна прачытала ў інтэрв'ю з Аляксеем Дударавым, што Саюз імкнецца акружыць клопатам і ўвагай, перадусім, ветэранаў сцэны. Высакародная місія. Але не менш адчувае патрэбу ў дапамозе і падтрымцы тэатральная моладзь — будучыня беларускага тэатра. Падаецца мэтазгодным аднаўленне былых секцый СТД, але ў новай якасці. І адной з іх можа стаць цэнтр маладзёжнай ініцыятывы, дзе б новыя ідэі ажыццяўляліся хаця б часткова. Калісьці ў Валерыя Маслюка была добрая ідэя — стварыць пры СТД тэатр "Шанц". Не ведаю, чаму яна не здзейснілася, мабыць, з прычыны перманентнага рамонту Дома мастацтваў. Цяпер само жыццё спарадзіла такі шанц-тэатр — Малы тэатр. Без памяшкання, майстэрні і г.д. Чаму б СТД, маючы ўласнасць і скарыстаўшы вопыт іншых тэатральных гарадоў, не адкрыць нешта накшталт тэатральнай майстэрні — для часовай падтрымкі (хаця б памяшканнем) новых тэатраў ці зборных калектываў для аднаго спектакля.

Вось не так даўно Міністэрства культуры разам з Інстытутам імя Гётэ наладзілі тэатралізаваныя чытанні сучасных нямецкіх п'ес. Амаль усім: і ўдзельнікам, і гледачам захацелася, каб прапанаваныя накіды ўяўных спектакляў увасобіліся ў жыццё. Інстытут імя Гётэ і сродкі на гэта можа выдзеліць. Калі б існавала тэатральная майстэрня ці тэатр-шанц — арганізацыйныя пытанні былі б вырашаныя. Яшчэ прыклад. Амаль штогод у сценах Беларускай акадэміі мастацтваў з'яўляюцца яскравыя, неардынарныя дыпломныя спектаклі. Але акцёрскія курсы пакідаюць акадэмію і спектаклі знікаюць. А многія з іх маглі б упрыгожыць афішу любога акадэмічнага тэатра. Толькі за апошнія гады можна прыгадаць бліскучы спектакль М.Пінігіна "Лысая спявачка", эксперыментальную пастаноўку В.Катавіцкага "Пікнік", спектакль-імправізацыю А.Андросіка "Гуляем у Шэкспіра", псіхалагічна-тонкія пастаноўкі Л.Манаковай "Азірніся ў гневе" і В.Баркоўскага "Нора". Але ўсе яны маглі прадоўжыць жыццё ў шанц-тэатры і стаць біржай працы для маладых акцёраў.

Згаданыя прыклады — з самога жыцця, а не "мары ля акенца". Яны не патрабуюць вялікіх выдаткаў, а толькі творча-арганізацыйнай падтрымкі.

Некалькі словаў пра сцэнаграфію. Мы пазнаёміліся з выставай беларускіх сцэнографаў, прымеркаванай да 50-годдзя СТД, што знаходзіцца на другім паверсе Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы. Добрая выстава. Дзякуй мастакам. Магу ацаніць намаганні Саюза па яе арганізацыі. Але як шкада, што сцэнаграфічныя выставы ў нас з'яўляюцца недаравальна рэдка. Калісьці Э.Гейдэбрэхт і Д.Мохаў змагаліся, каб штогадовыя сцэнаграфічныя "вынікі сезона" сталі абавязковым элементам тэатральнага жыцця. Бо яны важныя не толькі для асэнсавання вынікаў тэатральнага сезона, але і для разумення працэсаў, што адбываюцца ў сучаснай сцэнаграфіі, і як стымул для мастакоў не спыняцца на рабочым эскізе ці макеце, а дарабляць рэч да выставачнага варыянта. Я ўжо не кажу пра неабходнасць закупак. Але традыцыя спынілася. Я гляджу сёння на экспазіцыю выставы, і ў мяне ўзнікае адчуванне, што час спыніўся. Бачу творы васьмі-дзесяцігадовай і больш даўніны. Няма новых ідэй. Як быццам за апошнія гады нічога не адбылося ў галіне сцэнаграфіі. Ды ўрэшце, дзякуй Богу, што мастакі хоць прынеслі і захавалі свае творы. Мастак-сцэнограф — нейкая гінучая, штучная прафесія. Спачатку майстры-бутафоры, загадчыкі пастановачнай часткі пайшлі з тэатра (не прэстыжна працаваць і грошай амаль не плацяць), цяпер і мастак-сцэнограф — непрэстыжная прафесія. Хто з маладых мастакоў прыйшоў у тэатр за апошняе пяцігоддзе? Бачу толькі некалькі твораў Любы Сідзельнікавай. Ведаю, што цікава працуе ў магілёўскім тэатры лялек Ларыса Мікіна, але яе твораў на выставе няма.

Думаю, трэба аднавіць і стымуляваць працу секцыі сцэнаграфіі пры СТД. Арганізоўваць творчыя сустрэчы, абмеркаванні, пленэры. Сцэнаграфія — не тая галіна, дзе мы крочым наперадзе прагрэсу. Але трэба адзначыць і тое, што мы маем: узнагароду, прывезеную З.Марголіным з Пражскай квадрыенале, дасягненні мастакоў лялечнага тэатра. Дарэчы, мастакі тэатраў лялек сёння куды цікавей працуюць за мастакоў драматычнага тэатра. Мы можам ганарыцца імёнамі А.Фаміной, В.Рачкоўскага, Г і А.Сідаравых.

Наступнае пытанне пра тэатральную крытыку. Нагадаю, што тэатральная крытыка — гэта духоўны летапіс часу, дакументы тэатральнага жыцця і форма самасвядомасці тэатральнага мастацтва. Гэта адначасова навука і мастацтва.

У нас жа тэатральная крытыка мысліцца ўсё яшчэ на ўзроўні персанала-абслугі. Свабода слова крытыка ледзь не караецца. Варта сказаць штосьці не "агульнапрынятае", як з усіх бакоў зашыпяць "незадаволеныя". З фактычным расфармаваннем былой секцыі тэатральнай крытыкі, дзе які-ніякі парытэт думак, хаця б фармальна, утрымліваўся і дзе, прынамсі, існавала свая, няхай савецкая, форма справаздачы, выбарнасці, планавання, — аналітычная праца пры СТД спынілася. Сёння прэтэндуе на манаполію густаў і думак "Авансцэна", якая называе сябе "цэнтрам беларускай тэатральнай крытыкі". На нашых вачах адбылася небяспечная з'ява: зрошчванне часткі тэатральнай крытыкі з кіраўнічым апаратам. На сённяшні дзень "Авансцэна" з'яўляецца прадпрыемствам-філіялам Міністэрства культуры і ідэалагічна забяспечвае ягоную палітыку, "абслугоўвае" мерапрыемствы Міністэрства культуры. Гэта не дакор ці папрок у адрас Міністэрства. Яно якраз шмат чаго робіць для развіцця беларускага тэатральнага мастацтва. Нагадаю толькі творчую майстэрню тэатраў лялек, лабараторыю маладой беларускай драматургіі на "Вольнай сцэне", наладжаныя вядомыя фестывалі, "дні культуры" і г.д. Я кажу пра "ангажаванасць" такой тэатральнай крытыкі.

Саюз тэатральных дзеячаў наогул пазбавіўся ўласнай палітыкі. Падае прэстыж прафесіі крытыка. Кволы конкурс артыкулаў, які СТД калісьці наладжваў, пасляхова памірае. А менавіта ён павінен узняць прэстыж прафесіі, стаць сапраўднай трыбунай для абмеркавання вынікаў тэатральнага сезона з прыцягненнем шырокага кола тэатральнай грамадскасці і аглядам тэатральнага друку. Мы самі павінны паважаць адзін аднаго і ствараць умовы для нараджэння "залатога пяра" крытыка, вольных стралкоў. А нельга ж не заўважыць, што ў тэатральнай крытыцы апошняга часу адбываюцца зрухі, з'яўляюцца новыя формы журналістыкі, адносін з тэатрамі. Узяць, прыкладам, тэатральную газету "Арлекін" або аб'яднанне маладых тэатральных крытыкаў "Галёрка". Мяркую, што мэтазгодна не фармальна, на паперы, а на практыцы адрадзіць секцыю тэатральнай крытыкі пры Саюзе тэатральных дзеячаў.

Аналіз тэатральнага працэсу — гэта не "кулуарная" гаворка і не рэверансы ў адрас арганізатараў таго ці іншага мерапрыемства, свята. Не трэба блытаць банкетныя тосты і працу душы і розуму. На базе секцыі крытыкі можа быць створаны інфармацыйна-аналітычны цэнтр. У Саюз павінна сцякацца і апрацоўвацца інфармацыя аб усіх беларускіх тэатрах, дзеячах мастацтва. З другога боку, неабходна больш ці менш шырокае кола інфармацыі пра тое, што робіцца ў бліжэйшых краінах, пра магчымасці кантактаў. Інфармацыя павінна быць даступная кожнаму.

У СТД няма грошай, але ён можа стаць своеасаблівым пасрэднікам паміж творчай інтэлігенцыяй і шматлікімі фондамі (ЮНЕСКО, напрыклад), дзяржаўнымі структурамі. Саюз ужо пачаў працаваць у дадзеным накірунку. Я маю на ўвазе падтрыманыя Фондам Сораса фестываль монаспектакляў "Я", міжнародны тэатральны сімпозіум у Астрашыцкім гарадку. Але надта вузкае кола людзей, на якое былі разлічаны гэтыя мерапрыемствы.

СТД можа сам абвяшчаць конкурс праектаў (гэта могуць быць абмены з замежнымі партнёрамі, канферэнцыі, часовыя калектывы пад спектакль альбо п'есу, навукова-выдавецкія праекты). Тады і размоў пра "келейнасць" рашэнняў не будзе. Саюз можа выконваць ролю арганізацыйную, своеасаблівага "прабівалы": з выйграным праектам выходзіць на дзяржаўныя структуры.

У настальгічных успамінах аб Доме мастацтваў ён часцей за ўсё асацыіруецца з "мутным вокам", акцёрскім рэстаранчыкам. Амаль забылася, што там быў пакладзены калісьці пачатак Тэатральнай бібліятэцы. Сёння — гэта "заросшая тропа". Не збераглі нават тое, што было. Думаю, менавіта Саюз можа і павінен узяць на сябе працу стварэння сапраўднай Тэатральнай бібліятэкі. Не проста дзеля таго, каб узяць дадому кніжку пачытаць, а бібліятэку з разгорнутым каталогам, архівам, картатэкай спектакляў, бібліяграфіяй па персаналіях, тэатрах, гарадах, з рэпертуарнымі спісамі, творчым складам труп. У ідэале — з уласным відэафондам, дзе можна паглядзець запісы лепшых беларускіх спектакляў, пастаноўкі сусветнавядомых рэжысёраў і акцёраў. Калісьці мы павінны пачынаць выходзіць з таго дапатопна-аматарскага стану ў галіне тэатральнай інфармацыі, у якім мы знаходзімся.

Некалькі словаў пра тэатральную адукацыю. Калі ў грамадстве неспакойна, калі тэатр хварэе — пачынаюць кідаць камяні ў тэатральную школу. Між тым прывяду толькі некалькі фактаў. Кожны год нашы студэнты бяруць удзел у конкурсе чытальнікаў імя Яхантава ў Санкт-Пецярбургу і прывозяць узнагароды. Беларуская тэатральная школа вельмі высока ацэненая на прэстыжных міжнародных форумах у Патсдаме, Маскве ("Подыум"), Любляне. Не паспеў утварыцца конкурс спяваючых драматычных акцёраў імя А.Міронава, як нашы студэнты занялі там другое месца. Выпускнікі БелАМ склалі трупу "Вольнай сцэны". Апошнія "Крышталёвыя кветкі" за дэбют таксама нададзены нядаўнім выпускнікам акадэміі А.Гарбузу і В.Серадзе. Пасляхова дзейнічае новая форма мэтавых вочна-завочных набораў для абласных тэатраў у Гомелі, Магілёве. Можна яшчэ доўга працягваць у гэтым напрамку...

**У якасці рэзюме прапаную:**

**надаць СТД функцыі праваахоўчага органа тэатральнай інтэлігенцыі; стварыць Цэнтр маладзёжнай ініцыятывы і Тэатральную майстэрню (ці тэатр-шанц); падтрымліваць перспектыўныя праекты на конкурснай аснове і здзяйсняць пасрэдніцтва ў іх фінансаванні; аднавіць секцыю сцэнаграфіі і арганізаваць выставы "Вынікі сезона"; аднавіць секцыю крытыкі і на яе аснове стварыць інфармацыйна-аналітычную службу (альбо цэнтр); адрадзіць тэатральную бібліятэку з навуковым і архіўным патэнцыялам.**

Закончыць хацелася б на той жа трывожнай ноце, з якой я пачала. Мы жывём у небяспечны час. Ужо праслізгваюць (і што вельмі жахліва — у тэатральным друку) палітычныя абвінавачванні ў адрас таго ці іншага дзеяча. Мы не павінны забывацца на трыццатыя гады. Звяртаючыся да калег, я заклікаю памятаць урокі гісторыі і словы Янкі Купалы — "людзьмі звацца...".

Каб не замуцілася вока.

**Таццяна РАТАБЫЛЬСКАЯ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства,**
**дацэнт БелАМ.**

№ 13 5 — 11 красавіка 1997 г.



# КАЛІ ФОРМА ЎВАСКРАСАЕ...



Звычайна здараецца так, што калі мастак становіцца кіраўніком творчага саюза, ягоныя асабістыя творчыя планы нібыта адсоўваюцца на "потым". І гэта, увогуле, натуральна пры такой грамадска-адміністрацыйнай нагрузцы. Не заўсёды выдаецца магчымасць трапіць ва ўласную майстэрню, каб там гадзіну-другую папрацаваць над палатном альбо за скульптурным станком. Выключэнні — гранічна рэдкія.

Адно з іх — Генадзь Буралкін.

Паўтара гады таму ён быў у трэці раз абраны старшынёй Беларускага Саюза мастакоў. І сваю трэцюю персанальную выставу ён робіць за апошнія тры гады: першая была ў Палацы мастацтва, потым — у Маскве, у Цэнтральным Доме мастака, і вось тыдзень таму — у карцінnай галерэі "Мастацтва", што месціцца на праспекце Ф.Скарыны, 12.

Прафесія Генадзя Буралкіна — скульптар. Ён вучань Андрэя Бембеля, Анатоля Анікейчыка, Генадзя Мурамцава. Паспяхова працуе ў манументальнай і станковай пластыцы, аўтар помнікаў і прасторавых кампазіцый у Гродне, Салігорску, Лідзе, Дзятлаве, Ваўкавыску, своеасаблівых "паганскіх" твораў і філасофскіх экзерсісаў на тэмы быцця, адзінства чалавека са светам, прыродай, сваім мінулым.

І ўсё гэта ён выконвае ў матэрыяле — камені, шамоце, дрэве, метале і дасягае ў сваіх лепшых творах надзвычайнай унутранай экспрэсіі і выразнасці пластычнай мовы. Толькі ў матэрыяле, як казала Ганна Галубкіна, "форма ўваскрасае". Менавіта матэрыял, ягоная фактура, прастора і схаваная манументальнасць у Буралкіна займаюць важнае месца ў стварэнні мастацкага вобраза.

Як графік Генадзь Буралкін стаў вядомы параўнальна нядаўна, але і ў гэтым жанры мастацтва ён дасягнуў такой свабоды, лёгкасці і зграбнасці ліній і формаў, што, здаецца, першапачаткова быў народжаны для графікі.

Генадзь Буралкін — чвэрць стагоддзя ў мастацтве. Ягоныя творы знаходзяцца не толькі ў музеях Беларусі і Расіі, але і ў прэстыжных прыватных калекцыях Р.Ротшыльда і Д.Эндэ (ЗША), Б.Злата (Нарвегія)...

**Б.К.**

*На здымку: Г.Буралкін. Малюнак са "Славянскага цыклу".*

**Фота Яўгена КОКТЫША**

# РАЗАМ — СУПРАЦЬ КАТАСТРОФ

***27 сакавіка ў Таварыстве дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі адбылася сустрэча з супрацоўнікамі Міжнароднага медыцынскага камітэта па абмене інфармацыяй аб ахвярах ядзерных катастроф і сябрамі таварыства "Беларусь — Японія".***

Старшыня Таварыства акадэмік Яўген Канапля падзякаваў гасцям — старшыні японскага аддзялення Камітэта прафесару пану Юкіо Сата і яго супрацоўніцы Ціякі Мацура за тую дапамогу, якую аказвае Камітэт. Гэта і супрацоўніцтва ў галіне навукі аб наступствах ядзерных катастроф, і аздараўленне дзяцей, і гуманітарная дапамога з Японіі. У сваю чаргу кіраўнік балетнага курса ў Мінскім харэаграфічным вучылішчы пан Саіта, які разам са сваімі выхаванцамі прысутнічаў на сустрэчы, сказаў вашаму карэспандэнту, што ўражаны ўзроўнем балетнага майстэрства беларусаў і што супрацоўніцтва ў гэтым відзе мастацтва шмат дае маладым японцам.

У невялікім канцэрце прынялі ўдзел ансамбль "Туці" Беларускага універсітэта культуры, балетная пара — Ганна Міхей і Андрэй Цябут.

І, як нам паведаміў Старшыня Таварыства дружбы Арсен Ваніцкі, сёлета Белдзяржуніверсітэт папоўніўся яшчэ адным будучым беларусазнаўцам — студэнтам з Японіі.

**Наш кар.**



Дзесяць гадоў таму адзінаццаць віцебскіх мастакоў аб'ядналіся ў творчае таварыства "Квадрат". Гэта было першае свабоднае і незалежнае аб'яднанне мастакоў Беларусі. У ягоны склад увайшлі вядомыя віцебскія мастакі Аляксандр Салаўёў, Аляксандр Дасужаў, Віктар Шылко, Аляксандр Слепаў, Аляксандр Малей, Таццяна і Юрый Рудэнкі і іншыя.

Днямі ў выставачнай зале Саюза мастакоў у Віцебску адкрылася юбілейная выстава сяброў творчага таварыства "Квадрат".

*На здымку: твор Юрыя Рудэнкі "Арго".*

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА**

# "Я КЛАВІШАЎ СТАЮ КАРМІЎ З РУКІ..."

Нельга пісаць пра музыку без музыкі ў душы, без таго святла, якое перапаўняе, калі слухаеш Моцарта ці Рахманінава, без адчування першаадкрывальніка той таямніцы, якую зашыфравалі шмат гадоў таму ў нотах Брамс, Рымскі-Корсакаў, Шуман. І нельга не адчуць, як далучаешся да патаемнага, калі слухаеш гэтую музыку ў выкананні Ірыны Шумілінай. Кожны раз на яе канцэртах успамінаю Барыса Пастарнака: "Я клавішаў стаю карміў з рукі". Яркая паэтычная метафара вобразна вызначае стыль выканання Ірыны. Ледзьве дакранаючыся да клавішаў альбо, наадварот, моцна і ўладна, прымушаючы іх падпарадкоўвацца ёй, піяністка ўпэўнена вядзе слухачоў да адкрыцця вялікай Тайны: да стварэння музычнага вобраза. Кажуць, што падчас канцэрта кожны ў глядзельнай зале ўяўляе нешта сваё, глыбінна-запаветнае: прыходзяць светлыя ўспаміны дзяцінства, прыгадваюцца нейкія паваротныя моманты жыцця — каму што прапануе ўдзячная памяць. Так сцвярджаюць псіхолагі і прафесійныя музыканты. Так думае і Ірына Шуміліна. Думае і робіць усё, каб адкрыць перад слухачамі чароўны свет Рахманінава, Шумана, Стравінскага.




Праграмы яе канцэртаў складзены адпаведна выканальніцкім і духоўным схільнасцям піяністкі: "Я выбіраю творы кампазітараў, блізкіх мне, майму светаўспрыманню". Адсюль, відаць, і вынікае свая інтэрпрэтацыя, свая трактоўка пры выкананні любімага Рахманінава і любімага Брамса, цяпер зразумела толькі ёй дадзенае спасціжэнне музыкі Ігара Стравінскага. Памятаеце, як вызначыў напрыканцы 60-х Андрэй Вазнясенскі незвычайную музыку незвычайнага кампазітара ва ўспрыняцці звычайнага люмпена? "Стравінскі — абраза для вуха". Пакаленне "шасцідзесятнікаў" прайшло праз захапленне альбо непрыманне творчасці Стравінскага, а сёння мы дзіву даёмся: як можна не прымаць "Вясну свяшчэнную" альбо тую ж сюіту ў транскрыпцыі для фартэпіяна з балета "Жар-птушка", якую так віртуозна, так узнёсла-рамантычна выконвае Ірына, укладаючы ў ігру сваё індывідуальнае прачытанне?

Надзвычай плённай для Шумілінай была ў мінулым годзе сумесная работа з дырыжорам-французам П'ерам Дамінікам Панэлам, які быў запрошаны да нас з Германіі ў якасці галоўнага дырыжора Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра філармоніі. Ірына ўспамінае: "Панэл цікавы чалавек і таленавіты музыкант. Асабліва ўразіла яго нетрадыцыйная трактоўка Рахманінава. У выкананні гэтай музыкі існаваў і існуе штамп, просты, ужо "наезжаны" шлях і для аркестра і для саліста. А тут здарылася нешта неверагоднае — Другі канцэрт Рахманінава прагучаў у нас зусім па-новаму, нетрадыцыйна". Гэта творчая сустрэча і сумесная работа ў 96-м прадвызначыла планы на 97-ы. А планы надзвычай цікавыя. Якраз гэты год для нашай філармоніі юбілейны, спаўняецца 60 гадоў ад яе заснавання. Наперадзе ў піяністкі шмат гастрольных паездак па краіне. У красавіку Ірына збіраецца наведаць Віцебск. "Я люблю гэты горад, люблю яго ўдумлівага слухача. Над ім спрадвечная аўра мастацтва: Віцебск асацыіруецца для мяне з творчасцю Шагала, з тэатрам Якуба Коласа і з яго надзвычай таленавітымі акцёрамі. Канцэрты ў гэтым горадзе праходзяць неяк асабліва цёпла. Праўда, на гастролях, як звычайна, узнікаюць нейкія складанасці. Але ці было калі без іх? Цяпер я рыхтуюся да гэтай паездкі, чакаю яе".

Гастролі ў Віцебску — планы бліжэйшыя, ну, а цяпер пра самае галоўнае. Ірына Шуміліна шмат выязджала ў замежжа, пабывала яна ў Італіі, шмат разоў выязджала ў Германію, дзе піяністку прыязна сустракалі. "Так было раней, але з кожным годам, — зазначае Ірына, — выехаць усё цяжэй, прычына агульнавядомая — матэрыяльная".

Не так даўно заслужанай артысцы Беларусі Ірыне Шумілінай прыслалі з Японіі запрашэнне на гастролі. Але ў піяністкі не хопіць усіх яе зберажэнняў каб толькі даехаць да далёкай краіны. І хаця запрашэнне такое ўжо ёсць, пра гастрольную паездку, як пра рэальнасць, можна толькі марыць. Пішу гэтыя радкі і спадзяюся: а раптам знойдзецца фундатар, які дапаможа Ірыне Шумілінай выехаць на гастролі, тады ў далёкай Японіі — такая нагода здараецца не часта! — беларуская піяністка змагла б годна прадставіць нашу краіну і яе музычную культуру. Няўжо мара Ірыны застанецца толькі марай? Дзе вы, хто любіць Беларусь і Брамса, адгукніцеся!

**Алена РЫГОРАВА**



*Напярэдадні самага велічнага свята праваслаўных — Вялікадня прыйшла радасць для айца Андрэя і вернікаў Мінска. Па адрасе Партызанскі праспект, 17, адкрыўся новы прыход. Яго асвяціў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх Філарэт, а з гэтага тыдня пачаліся набажэнствы. У перспектыве пры прыходзе адкрыецца праваслаўная школка.*

# СВЯТЛО ЎСЯМУ СВЕТУ

7 красавіка Праваслаўная царква адзначае свята Дабравешчання Прасвятой Багародзіцы (роўна за 9 месяцаў да Раства Хрыстова). Гасподзь паслаў архангела Гаўрыіла ў Назарэт Галілейскі да Дзевы Марыі, якая была заручана праведнаму старцу Іосіфу. У ціхай пячорцы нябеснае ззянне... Белыя крылы за плячыма анёла...: Белыя лілеі ў яго руках... І дагэтуль не чутыя на зямлі словы: "Радуйся, Дабрадатная, Гасподзь з Табою! Блаславёна Ты сярод жанчын". Гэтымі словамі райская радасць вярталася на зямлю. Марыя засаромелася, бо яшчэ ні адзін чалавек на зямлі не быў названы дабрадатным. Анёл працягваў: "Не бойся, Марыя, бо Ты набыла Божую ласку. І вось, зачнеш у лоне, і народзіш Сына, і дасі Яму імя: Ісус. Ён будзе славуты і назавецца Сынам Усявышняга, і Царству Яго не будзе канца". Венчаная гэтымі словамі, як дзівосным вянком, Марыя з пакораю прымала вестку Божую, але нявольнае пытанне вырвалася з яе вуснаў: "Як гэта будзе, калі Я мужа не ведаю?"

"Дух Святы агорне Цябе і сіла Усявышняга ахіне Цябе; таму і Народжаны назавецца Сынам Божым", — адказаў анёл. І вось стаяла Яна, з пахіленай галавою, ціхмяная Дзева, будучая Царыца нябесная, і Дух Гасподзень ахінаў Яе: "Я раба Гасподня: няхай будзе мне па слову твайму!"

З гэтай хвіліны пачаўся новы перыяд у духоўнай гісторыі чалавецтва, адбылося Богаўвасабленне. Дабравесцем пачынаецца Евангельскі аповед. І хай кожны ў гэты дзень скажа сабе: "Радуйся, бо ўзышло сонца праўды і святло нябеснае пралілося на людзей, бо ёсць на гэтай зямлі надзея на выратаванне".

У IV стагоддзі ў Назарэце на тым месцы, куды архангел Гаўрыіл прынёс Дзеве Марыі вестку ад Бога, быў узведзены храм у памяць гэтай падзеі. Цяпер там каталіцкі манастыр. Тыя пакоі, дзе, паводле падання, жыло святое сямейства, захаваліся да нашага часу. Яны ўпрыгожаны мармурам і малахітам, там зроблены алтар, заўсёды гараць незгасальныя лампады, на прастоле і каля яго падножжа — вазы з белымі лілеямі. Ёсць яшчэ ў Назарэце царква св.Гаўрыіла, дзе знаходзіцца калодзеж, з якога, як кажуць, Дзева Марыя брала ваду.

**Марына БАХАРАВА**



Пакроўская царква ў пасёлку Доўск Рагачоўскага раёна.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА**

# УЧЫНКІ РАМАНТЫКА

Вось ужо шосты год у Расію і краіны СНД, у тым ліку і на Беларусь, адпраўляе гуманітарную дапамогу Славянскі фонд ЗША, які стварыў рускі пісьменнік, цяпер грамадзянін ЗША, ганаровы акадэмік Міжнароднай акадэміі "Еўразія" Віктар Муравін. Былы марскі афіцэр, ён піша вершы і прозу, самі назвы якіх сведчаць аб тым, што ў душы гэтага чалавека жыве юначая рамантыка падарожжаў і адкрыццяў — "Паўночнае ззянне", "Тайфун", "Вест-Індыя", "Агні Новага Арлеана". У 1995 годзе тры кантэйнеры адзення і прадуктаў прыйшлі ад В.Муравіна на адрас Беларускай праваслаўнай царквы, летась яшчэ два — на адрасы грамадскіх арганізацый. Цяпер Славянскі фонд ЗША сумесна з Міжнароднай грамадскай арганізацыяй "Беларускі дабрачынны фонд" распрацоўвае новую праграму гуманітарнай дапамогі і культурных сувязей.

**Ягор ФЯДЗЮШЫН**

## СПЫНІСЯ, ІМГНЕННЕ...



У Мінску ў гасцёўні Галубка адкрылася выстава твораў фотакарэспандэнта БелТА Яўгена Казюлі. Яна прысвечана юбілею фотамайстра і называецца "Вытокі", што мае глыбокі філасофскі сэнс.

У прадмове да сваіх твораў аўтар піша: "...Даўно шукаю для сябе адказ на пытанне: адкуль у мяне, гараджаніна, такая цікавасць да вёскі, яе людзей, іхніх характараў, традыцый, побыту, культуры? Мяркую, што яна — з тых вытокаў, адкуль ідзе мой род. Гэта карані маіх продкаў увабралі ў генетычную памяць хараство зямлі беларускай, нялёгкую працу селяніна, дабрыню і шчырую гасціннасць нашых людзей. Усё гэта жыве ў кожным з нас, каб у пэўны момант прачнуцца і раптам зрабіцца нашай сутнасцю.

Дваццаць гадоў працы фотакарэспандэнтам самага буйнога беларускага інфармацыйнага агенцтва далі мне магчымасць аб'ездзіць усю Беларусь, сустракацца з жыхарамі Палесся і Браслаўшчыны, Гомельшчыны і Міншчыны, Піншчыны і памежнай Беласточчыны, дзе жыве шмат этнічных беларусаў...".

На выставе, у пяці яе раздзелах — "Шлях да святыні", "Успаміны пра былое", "Палессе", "Вясковыя замалёўкі", "Зямля і людзі" — аўтар здолеў паказаць някідкую, але такую мілую прыгажосць беларускай прыроды, яе сцяжынак, браслаўскіх азёр, туманоў над Сожам і паводак на Прыпяці, бусла на даху і набожную старую, юную паляшучку, якая ўпэўнена кіруе лодачкай па хуткаплыннай рацэ, і такі прыгожы ў сваім спакоі і мудрасці твар старога. Гэтыя і шматлікія іншыя творы — сведчанне сустрэч, роздумаў, пошукаў, назіранняў, прафесійнага бачання хараства свету і людзей, якіх майстра здолеў адлюстраваць у "імгненні" жыцця.

**Святлана СІМАНАВА**

## ШАМАНСТВА НЕ АДБЫЛОСЯ

У галерэі сучаснага мастацтва "Шостая лінія" адкрылася выстава творчасці "TODESSCHAFT". Ягор Галуза, Андрэй Дурэйка (удзельнік і куратар), Вітольд Ляўчэня, Антон Слюнчэнка, Аляксей Церахаў, Максім Тымінько, Уладзімір Фёдараў паспрабавалі нагнаць на гледачоў жахаў. Ужо каля самога ўваходу на выставу наведнікі пабачылі агромністую скрыню з цэментам, што сведчыла пра сур'ёзнасць будоўлі аўтараў праекта. Так яно і атрымалася — суцэльныя лабірынты, дзе на кожным рагу сімвалы і словы папярэджання аб нябяспецы для здароўя. А тут яшчэ ў адным з тупікоў пастка ў выглядзе меднага таза з гарэлкай. Цэнтральная праца экспазіцыі складаецца з некалькіх экспанатаў — аднолькавыя чорныя кубы і чалавечыя пратэзы. Мне падаецца, што мастак праз гэткую аднолькавасць, якая змяняецца толькі ў патаемнай позе пратэза, здолеў паказаць вялікі культурны пласт таталітарных рэжымаў. Напрыклад, калі на плошчах усіх гарадоў узводзіліся калісьці помнікі правадыру пралетарыяту Уладзіміру Леніну, адрозненне гэтых шматлікіх застылых ленінаў толькі ў матэрыялах і позах. Напаміны пра савецкую структуру будавання барэльефаў былі таксама злоўленыя ў гэтых лабірынтах. Таму наведнікі поўнымі грудзьмі ўдыхалі ўспаміны, якія віталі тут — вакол мануменатльнай кампазіцыі.

Потым уражвае на выставе шматметровы чорны калідор, дзе гукі праецыруюцца ў грукат шаманскага гонга. Праўда, засталася маленькая недапрацоўка — падлога калідора аказалася не чорнай. Відавочна, што мастаку Вітольду Ляўчэні не хапіла змроку. Недахоп цемры, на жаль, вельмі скажае гукі гонга.

На месцы мастакоў я б правёў сапраўднае шаманскае выступленне. Гэта значыць, што прывілея падобных творчых кансорцыумаў і ў колькасці творцаў. Адзін чалавек не здолеў бы зрабіць шаманскі калектыў — прынамсі ўражанні былі б іншага кшталту. А тут цэлых сем чалавек! У рукі бубны і давай гуляць па патаемных лабірынтах. Ідэя праекта ад гэтага безумоўна толькі б выйграла.

Думка з дыяпраектарамі і відэамагнітафонамі мастака Тымінько зрабіла ў тупіках пастаянны рух вобразаў. Што добра... Але ў гэтым месцы можна было б паставіць аднаго з мастакоў, каб ён рабіў каментар, пажадана мовай глуханямых. Тады б у тупіках стварыўся моцны закадзіраваны рух, які нясе на падобныя выставы феерычную энергетыку.

Можна сказаць, што ўсё адбылося больш-менш удала. Але... гісторыя з медным тазам нагадала мне гісторыю пра літаратурны тазік беларускіх постмадэрністаў...

**Зміцер ВОЛКАЎ**

## У "СТРАЧАНАЙ КРАІНЕ"

У мастацкай галерэі пры тэатры "Вольная сцэна" разгарнулася выстава жывапісу Сяргея Рымашэўскага "Страчаная краіна". Як прызнаўся мастак, ягоная "краіна" не мае задуманай канцэпцыі. А мне падаецца, што аўтар падманвае сам сябе. Нягледзячы на разнапланавасць твораў, на іх раскіданасць па творчых пошуках, экспазіцыя мае выразна акрэсленую канцэпцыю, якая патыхае на нас са ўсіх куткоў, рысак, фарбаў, рам... гэта — казка, дзе жыве Сяргей.

Праца "Страчаная краіна" з'яўляецца фінішным крокам прадстаўленага, таму гэткую назву адпаведна носіць і сама выстава. Калі не закранаць магчымую палітычную падаплёку, дык відавочна, што тут ляжыць сум, гаркота душы творцы. Прыемна, што ў іншых творах, за выключэннем карціны "Канец гульні" і, магчыма, яшчэ дзвюх, гэты сум практычна адсутнічае. Напрыклад, "Верасовы вечар" уражвае па-іншаму — млыны, флюгеры, анёл, дзядуля са скрыпкай, дзеці, паэт за пісьмовым сталом, чалавек у старажытнай вопратцы, ваўкалакі — мастак паказвае сваё ўяўленне аб сярэднявеччы. Але адна рыска ў кутку працы — грамафон — як бы спроба паралелі з нашым цяперашнім жыццём. Гэта сапраўдныя роздумы, іронія.



Ва ўсіх творах мастак нібы аналізуе сваё існаванне праз прызму сваёй фантазіі, дзе нараджаецца ягоны дух, розум. Таму хочацца верыць — этапная праца "Страчаная краіна" не будзе апошняй казкай Сяргея.

**Зміцер ВОЛКАЎ**

*На рэпрадукцыі: С.Рымашэўскі. "Страчаная краіна". П., а. 1996.*

*Зважаем*

# НІ СТАТУСА, НІ МЕСЦА ДЛЯ РЭПЕТЫЦЫЙ..

***26 сакавіка ў дзіцячым анкалагічным цэнтры 1-й клінічнай бальніцы адбыўся дабрачынны канцэрт Мінскага брас-квінтэта. Канцэрт гэты быў арганізаваны пры садзейнічанні нашага былога земляка, цудоўнага музыканта Раіля Градзенскага. Ён ужо некалькі гадоў жыве ў Германіі, кіруе там аркестрам, але не забываецца на сваіх мінскіх сяброў, і не толькі на іх. Чалавек шчодрай душы, ён і зараз, як і некалькі месяцаў таму, прыбыў у Мінск з грузам дабрачыннай дапамогі для хворых дзяцей. Акрамя таго, 28 сакавіка ён даў вялікі канцэрт з мінскім духавым аркестрам "Няміга".***

У склад менавіта гэтага, вядомага далёка за межамі краіны калектыву і ўваходзяць музыканты, якія амаль што два гады таму стварылі Мінскі брас-квінтэт. Нягледзячы на сваю адносную творчую маладосць, ён ужо здолеў набыць папулярнасць сярод слухачоў. Яго ведаюць і з захапленнем сустракаюць у розных кутках Беларусі.

Сваю гісторыю Мінскі брас-квінтэт бярэ ад 1995 года, калі музыканты далі свой першы канцэрт. З той пары яны вядуць актыўную, без перабольшання самаадданую работу на карысць музыкі. На сваіх канцэртах яны нязменна дэманструюць высокі выканальніцкі клас, добры густ — усе тое, што захапляе слухачоў, і выхоўваюць публіку, у тым ліку і моладзь, якая ахвотна наведвае канцэрты брас-квінтэта, на лепшых узорах айчыннай і замежнай класікі. За няпоўныя два гады ў рэпертуары ансамбля з'явілася каля 100 нумароў — ад папулярнай музыкі і джаза да складаных твораў Баха, Моцарта, Дэбюсі, кампазітараў XX стагоддзя, музыкі рускіх і беларускіх аўтараў.

Высока ацэньваюць знаўцы і прафесійнае майстэрства брас-квінтэта. Ігра ў такім ансамблі, у склад якога ўваходзяць, як вядома, пяць медных духавых інструментаў, сапраўды патрабуе вялікага музычнага майстэрства і выканальніцкай сталасці. Як адзначаюць самі музыканты, гэтае майстэрства прыходзіць у доўгай рэпетыцыйнай рабоце, у выніку якой і выпрацоўваецца тое асабістае пачуццё "агульнага подыху", якое адметна вызначае менавіта класны калектыў. Майстэрства ансамбля складваецца з асабістай адоранасці кожнага. Узначальвае Мінскі брас-квінтэт яго мастацкі кіраўнік, бліскучы трубач, заслужаны артыст Беларусі, прафесар Віталь Волкаў. Ён, дарэчы, адзіны, хто прадстаўляе краіны былога Саюза ў такой ганаровай арганізацыі, як сусветная гільдыя трубачоў. Яго дапаўняе яшчэ адзін "паэт трубы", малады таленавіты Міхаіл Бунін. Альберт Шусталік — музыкант з вялікім вопытам, майстар валтарновай кантылены. Сяргей Уласко, яркі трамбаніст, і Мікалай Ярашэвіч, высокапрафесійна валодаючы тубай, асновай ансамбля, добра дапаўняюць салістаў. Усе яны ў працэсе музіцыравання складаюць сапраўдны калектыў аднадумцаў, чаго дасягнуць вельмі няпроста. Тут шмат тонкай прафесійнай спецыфікі, да таго ж і фізічна вытрымаць хаця б гадзінны канцэрт вельмі нялёгка. Гэтая задача па сіле толькі сапраўдным прафесіяналам.

І ўсё ж, нягледзячы на пэўныя цяжкасці, Мінскі брас-квінтэт актыўна гастралюе. Яго ведаюць і чакаюць не толькі на сталічных пляцоўках. Толькі сёлета, у 1997 годзе, канцэрты калектыву праходзяць па некалькі разоў на месяц. Студзень — два канцэрты ў Брэсце, люты — вельмі складаны, але пачэсны канцэрт у Камернай зале філармоніі. У сакавіку брас-квінтэт быў запрошаны прыняць удзел у адкрыцці міжнароднага конкурсу выканаўцаў на духавых інструментах у г.Баранавічы. На бліжэйшую будучыню плануюцца выступленні ў Гродне і шэраг канцэртаў у Франкфурце-на-Майне, дзе музыканты плануюць даць таксама некалькі дабрачынных імпрэз. Калектыў двойчы рабіў запіс на Рэспубліканскім радыё; адна з праграм уключала выкананне папулярных італьянскіх песень у суправаджэнні гэтага ансамбля.

Здавалася б, на гэтай "высокай ноце" можна было б і скончыць знаёмства з Мінскім брас-квінтэтам — калектывам, які, калі меркаваць па ўсім, што напісана вышэй, мае добрыя творчыя перспектывы. Добра, што сярод шматлікіх прафесійных ансамбляў стала яшчэ адным больш. Але, як гэта часта адбываецца ў нашым жыцці, усё добрае мае свае адваротныя бакі. І галоўнае тут тое, што існуючы як вядомая мастацкая адзінка, якая годна прадстаўляе беларускае мастацтва, Мінскі брас-квінтэт... не існуе як афіцыйна прызнаны калектыў. Ягоны статус пакуль што не выходзіць за межы сольнай секцыі аркестра "Няміга". Гэта, як распавялі мне музыканты ў доўгай і сур'ёзнай гаворцы, стварае шмат праблемаў, і за кожным плённым радком у творчай біяграфіі калектыву ставіць шэраг цяжкасцяў, якія музыканты наўрад ці пераадолеюць без падтрымкі і дапамогі. Рэпертуар — так, ён вялізны, разнастайны, высокамастацкі. Але як ён ствараецца? Большая частка складаецца з уласных аранжыровак, якія ў свой "вольны" час, а яго, вядома, амаль што няма, робіць прафесар Волкаў. Пакуль што гэтая праца не выходзіць за межы своеасаблівага "хобі", але ж яна вартая, безумоўна, значна большай увагі і прызнання. Ці шмат апрацовак такога высокага класа маюць тыя, хто выкладае, напрыклад, духавы ансамбль у музычных вучэльнях і ВНУ? А тут маглі б з'явіцца шматлікія рэпертуарныя зборнікі, якія служылі б на карысць справе духавой адукацыі. Складанасці рэпетыцыйнага працэсу — так, яны таксама ёсць і маюць не толькі выключна творчы характар. На сённяшні час музыканты проста не маюць стацыянарнага месца, дзе можна было б плённа рэпеціраваць. Яшчэ адна вельмі балючая і вядомая праблема — інструменты. Дзе і як іх набыць, таксама застаецца пытаннем. Гэты пералік можна было б яшчэ працягнуць. Дарэчы, у шматлікіх краінах свету, дзе культура ансамблевага духавога выканальніцтва развітая значна больш, чым у нас, па ўзроўні такіх калектываў, як брас-квінтэты, мяркуюць аб узроўні развіцця музычнай культуры наогул. У нас ён пакуль што адзіны. Не хацелася б яго страціць.

**Алена ГАРАХАВІК**



*На фота: Мінскі брас-квінтэт.*

## У ЧАЦВЕР...

20 сакавіка невялікая зала Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа сабрала аматараў сучаснай беларускай паэзіі. Правядзенне літаратурных вечарын, навукова-практычных канферэнцый стала добрай традыцыяй музея. Не так даўно тут сталі праводзіць яшчэ і "Літаратурны чацвер". У гэты сакавіцкі "чацвер" музей наведалі Генрых Далідовіч, Уладзімір Мархель, Іван Курбека, Казімір Камейша. На вечарыне прысутнічалі таксама пісьменнікі Яўген Хвалей і Алесь Камароўскі, якім сёлета споўнілася 50. Выказаць увагу і пашану юбілярам прыйшлі малодшы сын песняра Міхаіл Канстанцінавіч Міцкевіч, жонка Данілы Канстанцінавіча Ала Цімафееўна, унучка Коласа Марыя Міхайлаўна Міцкевіч. На вечарыне выступілі дырэктар музея Зінаіда Іванаўна Камароўская, фальклорныя гурты "Коласавы землякі" і "Гарэзы". Пасля выступалі з прывітальным словам у адрас юбіляраў Марыя Міхайлаўна Міцкевіч, Казімір Камейша, Уладзімір Мархель, Іван Курбека, Сымон Белы і інш.

Яўген Хвалей і Алесь Камароўскі падзякавалі прысутным за віншаванні, расказалі аб сваіх творчых планах. Так прайшоў першы літаратурны чацвер гэтага года ў музеі Якуба Коласа.

**Вікторыя ЯКАЎЛЕВА,**
**навучэнка Мінскага педагагічнага каледжа.**

## КІНО БЕЗ МЕЖАЎ

31 сакавіка — 2 красавіка ў Мінску прайшлі Дні расійскага кіно (хоць прадстаўлена яно было работамі кінематаграфістаў з Санкт-Пецярбурга). Як адзначыў намеснік міністра культуры Беларусі Юрый Цвяткоў, гэтая акцыя — праяўленне працяглых сяброўскіх адносін кінематаграфістаў Беларусі і Расіі. Варта адзначыць, што ў гэты ж час у Санкт-Пецярбургу прайшоў паказ некалькіх беларускіх фільмаў.

На дні расійскага кіно ў Мінск прыехала шмат гасцей з Расіі, сярод іх Віталій Лазінскі, намеснік старшыні камітэта культуры па пытаннях кіно Адміністрацыі г.Санкт-Пецярбурга, Аляксандр Галутва, першы намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта Расійскай Федэрацыі па кінематаграфіі, Яўгеній Лявонаў-малодшы, акцёр, старшыня гільдыі кінаакцёраў, і рэжысёры В.Сяргееў, А.Сухачоў.

Беларускія гледачы змаглі пабачыць новыя расійскія фільмы — мастацкія і дакументальныя.

**М.Б.**

САКАВІК ПРАЗ ПРЫЗМУ "БАГЕМНАГА" ШКЛА:

АПРАБАЦЫІ
АВАЦЫІ
АНТУРАЖ
АЖЫЯТАЖ

## Марыя БІЕШУ:
# "БЕЛАРУСЬ — НА ПЕРШЫМ МЕСЦЫ"

**Першым горадам, куды запрасілі выступіць Марыю Біешу адразу пасля яе трыумфу на такійскім Міжнародным конкурсе "Чыо-чыо-сан" (конкурс на лепшае выкананне партыі мадам Батэрфляй у гэтай оперы) у 1967 годзе, быў Мінск. З той пары спявачка наведвае з выступленнямі Беларусь амаль штогод. Сёлета, у рамках фестывалю "Мінская вясна", яна дае два канцэрты — 6-га красавіка ў сталічнай філармоніі. У Маладзечне — канцэрт адбыўся 3-га.**




— Беларусь — краіна, дзе я бываю, мабыць, найчасцей. Часта спяваю ў Маскве, Ленінградзе, на Украіне, але Беларусь — на першым месцы. Тут — добрыя традыцыі, і добра працуюць арганізатары. Я з задавальненнем удзельнічала і ў "Беларускай музычнай восені", і ў "Мінскай вясне". Прыязджала і з нашай операй, і проста для выканання сольных партый у спектаклях вашага опернага тэатра.

**— Якое зараз становішча ў Малдове?**

— Неблагое. Мы перажылі першыя цяжкасці станаўлення незалежнай дзяржавы, пазбеглі спакусы з'яднацца з Румыніяй, і жыццё становіцца ўсё больш спакойным. Але што датычыць культуры, то складанасцяў хапае. Наша опера імкнецца як мага больш гастраляваць — на любых, самых нязручных умовах, і таму апошнім часам я асабіста ад гэтых тураў адмаўляюся.

**— Оперныя партыі Вы лічыце больш важкімі для спевака, ці не так?**

— Відавочна. У мяне ў рэпертуары больш як 40 оперных партый. Я вельмі люблю Вердзі, Пучыні, Беліні, Чайкоўскага, Рахманінава — менавіта як оперных кампазітараў. Але опера — страшэнна цяжкі жанр, усё жыццё спяваць у оперы не будзеш. Што тычыцца канцэртных праграм, рамансаў, то тут мае прыхільнасці — Шуберт, Ліст, Дэбюсі. У іх звычайна не такі ўжо вялікі вакальны дыяпазон, у адрозненне ад оперных арый, затое вялікія магчымасці інтэрпрэтацыі, нюансіроўкі.

**— У Вас заўсёды вельмі цікавыя канцэртныя праграмы...**

— У мяне іх больш за дваццаць. Калісьці за адну з іх — з песень народаў СССР — я атрымала Дзяржаўную прэмію. Кожная з праграм рыхтуецца з той ці іншай нагоды. Напрыклад, зараз адзначаецца год Шуберта і Брамса, і ў тую праграму, што буду выконваць у Мінску, я ўключыла творы гэтых аўтараў. А разам з імі таксама і любімага Ліста, і для раўнавагі — Рахманінава. У другім аддзяленні выканаю "Ave, Maria" Масканьі і арыі з опер Пучыні і Беліні. Хацела б, калі дазволіць час, выканаць адзін з твораў вашага Багатырова. І абавязкова — беларускую народную "Кацілася чорна галка".

**— Часам у Вашых праграмах гучыць духоўная музыка. У якіх Вы адносінах з рэлігіяй?**

— Да рэлігіі стаўлюся сур'ёзна. З 1990 года я спяваю па нядзелях у царкоўным хоры. Я не магу сказаць, што з'яўляюся заўзятай хрысціянкай — але я стараюся верыць, што існуе дасканалая сіла — гэта Бог. І ўрэшце тое, што ў мяне ёсць, — дадзена мне ад Бога.

**— Ці ёсць у Вас агент-менеджэр?**

— Ёсць памочніцы — у Саюзе музычных дзеячаў. Але гэта — не агенты, яны не шукаюць для мяне кантрактаў і не прапаноўваюць мяне нікому. Я наогул не люблю нянек.

**— Ці маеце Вы вучняў?**

— Не надта многа, і не ўсе вучні могуць быць знакамітасцямі. Але зараз у мяне ёсць дзве вельмі добрыя дзяўчынкі, якія прагнуць вучыцца. Адна з іх ужо стала лаўрэатам нашага малдаўскага конкурсу імя Аляксея Стырча і ўзяла трэцюю прэмію на конкурсе імя Глінкі.

**— Ці не маглі б Вы падзяліцца бліжэйшымі планамі?**

— На чэрвень запланаваны вялікія трохтыднёвыя гастролі ў Ізраілі. Шмат іншых запрашэнняў. Аднак планы спалучаны не толькі з выканальніцкай дзейнасцю, але і з тым, што я з'яўляюся Старшынёй Саюза музычных дзеячаў Малдовы, ужо на працягу васьмі гадоў і нядаўна, у сакавіку, абрана на новы тэрмін. Мы арганізуем конкурсы, фестывалі, самы галоўны з якіх назвалі "Запрашае Марыя Біешу". У гэтым годзе будзе ўжо восьмы фестываль, за гэты час у нас пабывалі выканаўцы з Італіі, Францыі, Аўстрыі, ЗША і шмат іншых. Амаль штогод прыязджае Ірына Архіпава. Мы заўсёды рупімся, каб фестываль быў не толькі святам для слухачоў, але і святам для артыстаў — у Малдове ўмеюць прымаць гасцей.

**— Калі Вы збіраліся да нас, ці не палохалі Вас "сацыяльна-палітычнай нестабільнасцю" тут?**

— Так, многія казалі, маўляў, навошта ты едзеш, там бойкі на вуліцах, але я ніколі не баюся. Я еду з дабром — і наогул трэба быць добрым, трэба добра ставіцца да людзей — і ніхто цябе не кране.

**Гутарыў Ігар КЛОКАЎ**

ЛІШНЕ КАЗАЦЬ!



**СА СТУДЫІ "600"**

# У ПЕРАПЫНКУ ПАМІЖ ДУБЛЯМІ...

Упэўнена, кожны з нас, уключаючы тэлевізар нядзельнай раніцай, неаднойчы бачыў маленькіх артыстаў на экране Беларускага тэлебачання. Яны, нібыта зорачкі ў небе, чыстыя і прыгожыя. Дзеянні, што разгортваюцца на сцэне "Тэлебома", зачароўваюць. Яркія дэкарацыі, прыгожыя песні, арыгінальныя танцы ствараюць добры настрой. Але ці ўсё так проста? Такім чынам, заўтра таксама ў эфіры загучаць пазыўныя "Тэлебома", але што ж на самой справе адбываецца па той бок экрана?

Усё пачалося пяць гадоў таму, калі ў аўтара, Таццяны Сінкевіч, з'явілася ідэя стварыць дзіцячы эстрадны конкурс. Яго асноўнай задачай было знайсці таленавітых дзяцей і даць ім магчымасць паказаць сваю творчасць тысячам гледачоў, а таксама паспрабаваць сябе на прафесійнай сцэне. Напачатку, шукаючы юныя дараванні, "Тэлебом" ездзіў па ўсёй краіне, але неўзабаве конкурс пачаў выклікаць цікавасць і ў рэдакцыю пасыпаліся лісты і тэлефанаванні ад тэлегледачоў. Так пачалася гісторыя шоу-конкурсу "Тэлебом".

Часцей за ўсё выканаўцы самі знаходзяць нас. Распавядаюць нам пра тое, што яны робяць. Пасля гэтага мы запрашаем іх да сябе для праслухоўвання, дзе знаёмімся з матэрыялам. Сённяшні конкурс нельга параўнаць з тым конкурсам, які быў пяць гадоў таму, бо зараз ідзе дастаткова строгі адбор выканаўцаў. Увага звяртаецца літаральна на ўсё: вершы, музыку, аранжыроўку, касцюмы, выкананне. Бо ад гэтага залежыць, наколькі конкурс будзе адвольным і цікавым. Часта на сцэне "Тэлебома" адбываюцца цэлыя тэатралізаваныя дзеянні з казачнымі героямі. Іншы раз здзіўляешся, наколькі вынаходлівыя кіраўнікі дзіцячых калектываў, якія прыдумваюць сюжэты да песень, а таксама бацькі, якія мадэлююць і шыюць цікавыя касцюмы. Наогул вядзецца пастаянная праца над стылем тэлеперадачы. Яе рэжысёр, Анжэла Ціманюк, лічыць, што конкурс з кожным годам павінен станавіцца больш арыгінальным і прафесійным.

Нягледзячы на тое, што перадача "выжывае" без спонсараў, яе аўтарам удаецца стварыць добрае афармленне, святло, цудоўную атмасферу на пляцоўцы. Падчас стварэння праграмы з дзецьмі працуюць сапраўдныя прафесіяналы. Яны даюць важныя парады, заўвагі. У конкурсе могуць удзельнічаць дзеці ад 3 да 18 гадоў. Існуюць намінацыі для артыстаў строга вызначанага ўзросту. Напрыклад, у намінацыі "Агу" — дзеткі ад 3 да 6 гадоў, у намінацыі "Першыя крокі" — ад 6 да 8, у намінацыі "Непаўторнасць" удзельнічаюць самыя дарослыя. Ёсць таксама намінацыя "Свой танец", дзе свае мастацтва дэманструюць танцавальныя калектывы.

Усе конкурсы ацэньваюць сябры журы, а гэта — вядомыя на Беларусі дзеячы эстраднага мастацтва. Нязменны старшыня журы кампазітар Алег Елісеенкаў. Сярод сяброў журы таксама знакамітыя Эдуард Ханок, Ядзвіга Паплаўская, паэтэса Алена Турава і іншыя. Безумоўна, журы імкнецца як мага больш аб'ектыўна ставіцца да канкурсантаў, але ўсё ж ім дастаткова складана ацэньваць выступленні самых маленькіх удзельнікаў, бо ўсе яны мілыя, таленавітыя, але — конкурс ёсць конкурс, а значыць, ёсць пераможцы і тыя, хто прайграў. Нягледзячы на гэта, паміж канкурсантамі складваюцца цёплыя адносіны, яны маральна падтрымліваюць адзін аднаго, хвалююцца. Складана і тое, што здымкі на тэлебачанні — доўгая і цяжкая справа. Рэжысёр павінен зняць тэлеперадачу такім чынам, каб тое, што адбываецца на сцэне, было цікавым для тэлегледачоў. Для гэтага на ўдзельніка накіроўваецца святло, робіцца некалькі дубляў, з якіх пасля здымак манціруецца гатовы матэрыял. Усе ўдзельнікі павінны быць падрыхтаванымі да свайго выхаду на сцэну на працягу ўсяго здымачнага дня, а гэта — вялікая нагрузка. Не кожны можа быць сабраным, вясёлым на сцэне, калі ён стаміўся, і тэлебомаўцы вучацца гэтаму, беручы ўдзел у конкурсе.

У траўні бягучага года ў Магілёве адбудзецца фінал. Ужо вядомыя імёны некаторых фіналістаў: гэта 6-гадовая Марына Грыцюк з Мінска, Арсен Чарнамашанцаў з Баранавіч, Алена Храмянкова з Бабруйска. Журы таксама адзначыла выступленні Дзмітрыя Мінько, Аляксея Скрыпніка, Тані Харлінскай. Стваральнікі тэлеперадачы ўпэўнены, што іхнія канкурсанты падаюць вялікія спадзяванні і, хто ведае, магчыма, менавіта яны ў будучыні стануць "зоркамі" беларускай эстрады. Вось такія мае кароткія замалёўкі са студыі "600" Беларускага тэлебачання ў перапынку паміж двума дублямі...

**Вольга ЗУЙ,**
**адміністратар творчага аб'яднання праграм для дзяцей і юнацтва Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь.**



*На здымках: спявак Джымі з аўтаркай і вядучай "Тэлебома" Таццянай Сінкевіч; фінальная песня.*

**Фота В.ЗАЙКОЎСКАГА**



КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года
Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь
Першы намеснік галоўнага рэдактара — Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдакцыйная калегія:
Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Ігар КЛОКАЎ, Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ
Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК), вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: 76-94-66
Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Падпісана ў свет 3.04.97. у 15.00.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 3514
Замова 1864
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.